# МІНСКАЯ ПРАЎДА

Газета заснавана 1 лістапада 1950 года — Субота, 5 лістапада 1994 года — № 118 (10818) — Цана 40 руб.


ФАКТЫ • ПАДЗЕІ • АРГУМЕНТЫ • МЕРКАВАННІ

## У Прэзідыуме Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

Пад старшынствам Мечаслава Грыба адбылося пасяджэнне Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

Абмеркаваны пералік пытанняў, плануемых да разгляду на шаснаццатай сесіі парламента з 8 па 11 лістапада. Сярод іх: унясенне змяненняў і дапаўненняў у законы "Аб Нацыянальным банку Рэспублікі Беларусь", "Аб банках і банкаўскай дзейнасці ў Рэспубліцы Беларусь", "Аб выбарах народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь" і іншыя. Усяго плануецца разгледзець больш за 20 пытанняў.

Прынята рашэнне аб узнагароджанні Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь калектыву арэнднага будаўнічага трэста №13 за значны ўклад у ажыццяўленне праграмы прамысловага і сацыяльна-культурнага будаўніцтва ў рэспубліцы і ў сувязі з 50-годдзем з дня заснавання.

Ганаровымі граматамі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь узнагароджаны таксама прэзідэнт Акадэміі навук Беларусі акадэмік Леанід Сушчэня за вялікі ўклад у развіццё беларускай навукі, падрыхтоўку навуковых кадраў і актыўную грамадскую дзейнасць; група работнікаў беларускага дзяржаўнага ансамбля "Песняры" і іншыя.

*Прэс–служба Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь — БЕЛІНФАРМ.*

■ Прэс-канферэнцыя

## ПАЛІТЫКА НЯГЕГЛАГА ДРЫВАСЕКА

Прэс-канферэнцыя, якую правялі на гэтым тыдні намеснік прэм'ер-міністра рэспублікі У.Г.Гаркун, міністры: сельскай гаспадаркі і прадуктаў харчавання — В.С.Ляонаў, лясной гаспадаркі — В.П.Зорын і прыродных рэсурсаў і навакольнага асяроддзя — М.І.Русы, была прысвечана вынікам работы калгасаў, саўгасаў, фермераў у раслінаводстве і пытанню забеспячэння насельніцтва прадуктамі харчавання.

Першым размову з журналістамі пачаў У.Г.Гаркун. Ведаючы, у якіх умовах знаходзіцца сёння сельская гаспадарка, чакаць ад яго паведамленняў пра нейкія поспехі і дасягненні працаўнікоў вёскі не даводзілася. І тым не менш, ацэнка, якою намеснік прэм'ера вызначыў стан спраў не толькі ў калгасах і саўгасах, але і ва ўсім аграпрамысловым комплексе, не магла не выклікаць змрочных пачуццяў. "Сельская гаспадарка рэспублікі перажывае найвастрэйшы крызіс", — заявіў намеснік прэм'ера журналістам.

Якога-небудзь адкрыцця гэтай фразай Уладзімір Гіляравіч не зрабіў. Вядомая ўсім ісціна прагучала і ў наступных словах: "Прычына такога становішча — непарытэт цэн на прамысловую і сельскагаспадарчую прадукцыю". У выніку грашовыя рэсурсы літаральна перапампоўваюцца з калгасаў і саўгасаў — асноўных нашых вытворцаў прадуктаў харчавання ў іншыя галіны гаспадаркі і камерцыйныя структуры.

Здавалася б, усвядоміўшы гэта, урад пастараецца стварыць умовы калгасам, саўгасам, фермерам, каб такая прадукцыя палёў і ферм, як лён, мяса, цукровыя буракі, не была для іх з году ў год стратнай. Бо калі так будзе працягвацца і надалей, то праз некаторы час перапрацоўчыя прадпрыемствы не атрымаюць сыравіны ўвогуле. Тым не менш, палітыка "абдзірання" гаспадарак на ўзбраенні і сёлета.

Праўда, з вуснаў намесніка прэм'ера і міністра сельскай гаспадаркі і прадуктаў харчавання прагучалі словы, якія сведчаць, што яны ўвогуле разумеюць небяспеку таго, калі раптам на беларускі рынак хлынуць замежныя "куриные окорочка". Гэта прывядзе да краху калектыўных гаспадарак рэспублікі, якія, нягледзячы на адсутнасць парытэту цэн на сваю і прамысловую прадукцыю, затрымку грошай перапрацоўшчыкамі, невераігодныя падаткі, усё яшчэ кормяць нас. Нашы магазіны тады будуць запоўнены замежнымі прадуктамі харчавання, але... мы будзем хадзіць напаўгалодныя, бо будзем беспрацоўнымі, а наш ўрад вымушаны будзе субсідзіраваць (праз закупкі) не свайго, беларускага, вытворцу, а замежнага фермера.

І вось тут разуменне неабходнасці субсідзіраваць менавіта свае, айчынныя, гаспадаркі, прадпрыемствы, аб'яднанні ў намесніка прэм'ера і міністраў, здаецца, канчаецца. На прэс-канферэнцыі не прагучала ні слова аб тым, што мае намер зрабіць урад, каб на працягу зімы калгасы і саўгасы змаглі адрамантаваць тэхніку, вывезці на палі патрэбную колькасць арганікі, запасціся мінеральнымі ўгнаеннямі і сродкамі аховы раслін. Наадварот, як сведчыць прэса, кіраўнік Нацыянальнага банка рэспублікі (відавочна ж, разам з кіраўнікамі ўрада) уважліва прыслухоўваецца да парад фінансістаў з Міжнароднага валютнага фонду і адкрыта ці прыкрыта ўсё робіць для таго, каб не крэдытаваць і без таго загнаную ў глыбокую даўгавую яму айчынную сельскую гаспадарку. Але ж гэта — палітыка дрывасека, які сеў на сук тварам да ствала і вырашыў гэты самы сук адсекчы.

*Іван АБАБУРКА, аглядальнік "Мінскай праўды".*

## Прэзідэнт пройдзе курс лячэння ў Сочы

Як паведамілі ва ўпраўленні грамадска-палітычнай інфармацыі адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка, атрымаўшы кансультацыі кваліфікаваных медыкаў у Мінску і Маскве, пройдзе курс далейшага лячэння дыскагеннага радыкуліту ў Сочы. Лячэнне прадоўжыцца каля дзесяці дзён. Адначасова, падкрэсліваецца ў паведамленні, прэзідэнт будзе вырашаць пытанні ўстанаўлення прамых эканамічных сувязей паміж Беларуссю і Краснадарскім краем. Адбудуцца яго сустрэчы з адміністрацыяй края, у час якіх будзе весціся размова аб узаемных пастаўках прамысловых тавараў і прадуктаў харчавання.

Сцвярджэнні некаторых сродкаў масавай інфармацыі аб тым, што прэзідэнту быццам бы будзе зроблена аперацыя, пакуль не маюць пад сабой ніякіх падстаў. І ўжо тым больш беспадстаўныя разважанні аб тым, што хвароба перашкодзіць прэзідэнту выконваць абавязкі кіраўніка дзяржавы, падкрэсліў начальнік упраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі Аляксандр Фядута. «Якімі б спасылкамі на Канстытуцыю такія меркаванні ні падмацоўваліся, хочацца верыць, што за імі стаяць клопаты аб здароўі прэзідэнта, а не імкненне выдаць жадаемае за сапраўднае. Прэзідэнт, прайшоўшы курс рэкамендаваных медыкамі працэдур, у хуткім часе вернецца ў Мінск і пачне выконваць свае абавязкі ў поўным аб'ёме».

*БЕЛІНФАРМ.*

## Заўтрашні дзень калгасаў. Якім яму быць?

У Старых Дарогах адбылася сустрэча міністра сельскай гаспадаркі і прадуктаў харчавання рэспублікі В.С.Ляонава, першага намесніка старшыні аблвыканкома, старшыні аблсельгасхарча А.М.Жука і генеральнага дырэктара аграпрамысловай асацыяцыі А.В.Круглякова з кіраўнікамі і спецыялістамі калгасаў і саўгасаў Старадарожчыны, а таксама Пухавіцкага, Салігорскага, Слуцкага і Любанскага раёнаў.

На сустрэчы абмеркавана "Праграма стабілізацыі і развіцця АПК і рынку прадуктаў харчавання Рэспублікі Беларусь на 1994—1999 гады", праект якой Мінсельгасхарч мяркуе вынесці на зацвярджэнне ўрада.

Выступаючы перад кіраўнікамі і спецыялістамі калгасаў і саўгасаў, міністр адзначыў, што для Беларусі найбольш за ўсё падыходзіць вопыт перабудовы калектыўных гаспадарак, які набыты ва Усходняй Германіі. Там калектыўныя гаспадаркі пераўтвораны ў арцелі, асацыяцыі, аграфірмы — у залежнасці ад вытворчай дзейнасці. Цяпер яны паспяхова канкурыруюць на ўнутраным і знешнім рынках са знакамітымі фірмамі Заходняй Германіі, іншых краін.

Вядома, галоўная задача нашых калгасаў і саўгасаў — дабіцца рэнтабельнасці вытворчасці. Дасягненне гэтай мэты В.С.Ляонаў бачыць на шляху вытворчасці прадпрыемствамі аграпрамысловага комплексу канкурэнтаздольнай прадукцыі. Рынак яе збыту, падкрэсліў ён, — не Захад, а блізкае замежжа, Расія.

Кіраўнікі і спецыялісты калгасаў і саўгасаў выказалі свае адносіны да праграмы Мінсельгасхарча, заўвагі і прапановы.

## Зіма, а кармоў мала

Вынікі работы жывёлагадоўчай галіны вобласці з пачатку года разгледжаны ў мінулы чацвер на семінары начальнікаў і галоўных заатэхнікаў райсельгасхарчаў, кіраўнікоў службаў аграпрамысловага комплексу. Першы намеснік старшыні камітэта па сельскай гаспадарцы і прадуктах харчавання Л.В.Русак у дакладзе на пленарным пасяджэнні падрабязна прааналізаваў стан спраў у мяса-малочным цэху, даў ацэнку работы кадраў. Карэннага пералому да лепшага ў жывёлагадоўлі не адбылося, толькі па надоях малака забяспечана некаторая прыбаўка ў параўнанні з леташнім перыядам. Напружанай будзе зімоўка жывёлы, бо кармоў нарыхтавана па вобласці амаль на 20 працэнтаў менш мінулагодняга. На пасяджэнні, якое вёў першы намеснік старшыні аблвыканкома А.М.Жук, справаздачу трымалі начальнікі ўпраўленняў сельскай гаспадаркі і прадуктаў харчавання Крупскага, Капыльскага, Мядзельскага райвыканкомаў М.М.Гаеўскі, Я.В.Сівец, У.В.Валасевіч.

Удзельнікі семінара азнаёміліся з арганізацыяй зімоўкі жывёлы ў калгасах "Колас", "Ухвала", пабывалі на прадпрыемстве "Амкадор-Можа", у сельгасхіміі, на іншых аб'ектах.

## Калі нарадзе рады

Аблвыканком правёў нараду з удзелам загадчыкаў арганізацыйных аддзелаў і кіраўнікоў спраў райвыканкомаў. Размова, пачатак якой паклаў загадчык аргаддзела аблвыканкома А.Х.Чаеўскі, ішла пра задачы Саветаў дэпутатаў у сувязі з унясеннем змяненняў у Закон аб мясцовым самакіраванні.

Начальнік фінансавага ўпраўлення аблвыканкома П.К.Зайцаў засяродзіў увагу прысутных на некаторых фінансавых пытаннях, выкліканых ліквідацыяй гарадскіх /раённага падпарадкавання/, пасялковых і сельскіх Саветаў дэпутатаў.

Можна спадзявацца, што цяпер знікнуць многія непаразуменні з размежаваннем улады, пра якія ў апошні час ішлі размовы сярод дзяржаўных служачых мясцовага ўзроўню.

*/Наш кар./.*

■ Па чутках і аўтарытэтна

## «Чыстка» льготнікаў пачалася?

Раптоўна, як высветлілася, могуць павышацца не толькі цэны. Пенсіянеры, якія 1 лістапада сабраліся выехаць за горад на прыгарадным транспарце, былі пастаўлены перад фактам, што за праезд ім цяпер трэба плаціць.

Як паведамілі карэспандэнту Белінфарма ў Міністэрстве сацыяльнай абароны рэспублікі, напярэдадні — 28 кастрычніка — Кабінет Міністраў Беларусі прыняў пастанову №144, згодна з якой часткова спыняецца дзеянне падпісанай 29 красавіка гэтага года Вячаславам Кебічам пастановы аб транспартных ільготах. А гэта значыць, што з 1 лістапада 1994 года адменены прадастаўленыя былым Саветам Міністраў рэспублікі да 1 студзеня 1995 года льготы на бясплатны праезд у прыгарадным аўтамабільным і чыгуначным транспарце асобам, якія дасягнулі пенсіённага ўзросту.

Аднак па-ранейшаму маюць права на бясплатны праезд да месца вучобы і назад вучні школ-інтэрнатаў і ПТВ, якія пражываюць у сельскай мясцовасці. Няма прычын турбавацца пакуль і інвалідам. Іх транспартныя льготы прадугледжаны адпаведным законам. Захаваўся бясплатны праезд для пенсіянераў і ў гарадскім грамадскім транспарце.

Дарэчы, Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка не раз выказваў сваё неўразуменне наконт існуючай у рэспубліцы сістэмы прадастаўлення розных ільгот. Імі ў нашай краіне карыстаюцца больш як шэсць з палавінай мільёнаў чалавек. І пытанняў узнікае ў сувязі з гэтым нямала. Чаму, напрыклад, работнік міліцэйскай бухгалтэрыі ездзіць бясплатна, а яго калега з бальніцы — не? Гэта толькі прыватны прыклад, якіх можна прывесці нямала. Парадак тут, зразумела, з цягам часу будзе наведзены. І хочацца верыць, што закране гэтая "чыстка" льготнікаў з ліку не толькі найменш абароненай групы грамадзян.

*БЕЛІНФАРМ.*

## Дом, дзе саграваюцца сэрцы

Такім домам для беларускіх журналістаў стала іх альма-матэр — факультэт журналістыкі Белдзяржуніверсітэта, якому 1 лістапада споўнілася роўна 50 гадоў. І ўсе, хто сабраўся ў гэты дзень спачатку ў актавай зале факультэта, а затым у Доме літаратара, адчулі такі рэдкі ў нашы няпростыя дні святочны настрой. Як прыемна было зноў убачыць выкладчыкаў, якім у свой час, хвалюючыся і перажываючы, здавалі экзамены, хто вучыў нас журналісцкаму майстэрству і жыццёвым мудрасцям. Гэта дзякуючы ім, нашым настаўнікам, сёння тысячы выпускнікоў факультэта, працуючы не за грошы, бо, напрыклад, аклад загадчыка раёнкі — усяго 50 тысяч рублёў, а за сумленне, пішуць летапіс сучаснасці. Гэта па іх публікацыях, тэле- і радыёперадачах ствараецца карціна сённяшняга дня. І не віна журналістаў, што ў карціне гэтай чорных мазкоў пакуль яшчэ больш.

Аб тым, што ў журналістаў, незалежна ад іх палітычных прыхільнасцей, сёння адзін агульны клопат — лёс роднай Беларусі, гаварылі ад імя Прэзідэнта начальнік упраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі адміністрацыі прэзідэнта Аляксандр Фядута, ад імя Старшыні Вярхоўнага Савета — намеснік старшыні парламенцкай камісіі народны дэпутат і выпускнік факультэта Анатоль Вярцінскі. Міністры Васіль Стражаў і Анатоль Бутэвіч да віншаванняў далучылі граматы для супрацоўнікаў факультэта, а Саюз журналістаў прысудзіў прэмію за вялікі ўклад у журналістыку дэкану факультэта прафесару Алегу Слуку.

*БЕЛІНФАРМ.*

## Чэкаў не трэба, лепш — грашыма

Ажыццяўленне малой прыватызацыі ў Беларусі павінна ісці выключна за грошы, у адваротным выпадку прыватызацыя праз чэкі "Маёмасць" будзе праводзіцца каля 35 гадоў. Такой думкі прытрымліваюцца прадстаўнікі Беларускай гільдыі спецыялістаў па нерухомасці.

Той факт, што прыватызацыйныя працэсы ідуць вельмі марудна, пацвярджаюць і прадстаўнікі Міністэрства па кіраванню дзяржаўнай маёмасцю і прыватызацыі рэспублікі. Паводле іх ацэнак, за ўвесь перыяд раздзяржаўлення і прыватызацыі рэфармавана толькі 15 працэнтаў дзяржаўнай уласнасці, а прыватызавана менш за чатыры працэнты. У Мінску малая прыватызацыя ўвогуле на нулявой адзнацы — за ўвесь перыяд прададзена толькі два маленькія магазіны.

Асноўную перашкоду справе прыватызацыі гільдыя спецыялістаў па нерухомасці бачыць у тым, што большая частка аб"ектаў дзяржаўнай уласнасці аддаецца ў арэнду. У адпаведнасці з Законам аб арэндзе дзяржава, аддаўшы ў карыстанне маёмасць на працяглы тэрмін, аўтаматычна выключае яе са спіса прыватызуемых аб"ектаў.

*БЕЛІНФАРМ.*

**Крымінал**

### НЕ ПА-КАРАЛЕЎСКУ...

Ушчэнт згарэў "мерседэс-бэнц"... Тое, што знойдзена ў багажніку, цяжка назваць нават трупам — вуголле чалавечага цела.

Што і казаць, не каралеўская доля напаткала напярэдадні Дня Памяці ахвяру, знойдзеную ў лесе ля вёскі Каралёў Стан Мінскага раёна. Аператыўным шляхам устаноўлена, што машына належыць, дакладней — належала, Міхаілу Лаўрыновічу, былому генеральнаму дырэктару БелаўтаМАЗа, а цяпер прэзідэнту Беларускай навукова-прамысловай асацыяцыі. Знік і вадзіцель. Па знойдзеных астанках цяжка вызначыць, каго ж напаткаў такі жудасны лёс. Слова — за экспертамі і следствам.

*БЕЛІНФАРМ.*

■ Спорт

### Матч на дэсерт

Два паражэнні запар пахіснулі турнірнае становішча мінскага «Дынама» ў чэмпіянаце Беларусі па футболу. Рэабілітавалі сябе дынамаўцы ў прапушчаным матчы з бабруйскім «Фандокам», які выйгралі з лікам 7:0 і перамясціліся на другое месца.

Заўтра вельмі прынцыповая гульня, дзе ў апошнім туры першага круга лідэр чэмпіянату віцебскі КІМ прымае мінскае «Дынама». Напэўна, не разлічвалі аўтары календара, што на дэсерт яны заплануюць такую гульню.

### Выйгралі "Кубак Скандынавіі"

Ватэрпалісты мінскага "Прыёра" прынялі ўдзел у міжнародным турніры на "Кубак Скандынавіі", дзе выступілі вельмі паспяхова.

У групавым турніры яны са значнай перавагай выйгралі ў чэмпіёнаў Швецыі, Фінляндыі і першай каманды Даніі, а ў фінале з лікам 9:4 нанеслі паражэнне другой камандзе Даніі, якая перамагла ў сваёй папярэдняй групе.

Прайшоўшы турнір без паражэнняў, спартсмены "Прыёра" папоўнілі сваю калекцыю прызоў "Кубкам Скандынавіі".

### Двума саставамі

У чэмпіянаце Беларусі па ручному мячу сёлета "Палітэхнік" з нашай вобласці выступае двума саставамі. Пасля першага тура, матчы якога праходзілі ў Мінску і Гомелі, па тры перамогі маюць першая каманда "Палітэхніка" і гомельскі "Універсітэт". У "Палітэхніка-2" — дзве перамогі.

Другі тур пройдзе ў Мінску з 8 па 11 снежня.

*(Наш кар.).*


### Газета для вас і пра вас

Працягваецца падпіска на першае паўгоддзе 1995 года. Кошт яе на *"Мінскую праўду"* – 7.200 рублёў.

Калі вы аформіце абанемент на нашу газету, то будзеце мець аператыўную і цікавую інфармацыю аб падзеях у рэспубліцы, сталічнай вобласці.

**"Мінская праўда" — газета для вас і пра вас!**


### К СВЕДЕНИЮ ПОТРЕБИТЕЛЕЙ электроэнергии г.Минска

С 1 ноября 1994 г. введены следующие тарифы на электроэнергию, зарегистрированные Департаментом цен при Министерстве экономики Республики Беларусь 24.10.94 г. за № 273-Ц /тарифы даны в белорусских рублях/.

| Потребители | Тариф |
|---|---|
| 1. Промышленные и приравненные к ним потребители 750 кВА и выше | |
| — основная плата /за 1 месяц/ | — 26.795 руб./кВт |
| — дополнительная плата | — 229 руб./кВт.ч |
| — дополнительная плата для предприятий Белбиофарма | — 148 -"- |
| 2. Промышленные и приравненные к ним потребители до 750 кВА | — 300 -"- |
| 3. Электрифицированный ж/д транспорт /электротяга/ | |
| — пригородный | — 221 -"- |
| — без пригородного | — 300 -"- |
| 4. Электрифицированный городской транспорт /электротяга/ | — 221 -"- |
| 5. Непромышленные потребители | |
| — бюджетные организации | — 221 -"- |
| — ведомственная социальная сфера, уличное освещение и прочие непромышленные потребители | — 300 -"- |
| 6. Больничные учреждения Минздрава РБ | 70.20 -"- |
| 7. Производственные нужды сельхозпотребителей | — 148 -"- |
| 8. Электроэнергия для нужд отопления и горячего водоснабжения | |
| — в часы ночного минимума * | — 206 -"- |
| — в остальное время суток | — 1.029 -"- |
| 9. Строительные организации Белсельстроя | — 300 -"- |
| 10. Освещение лестничных клеток, дворов | — 70.20 -"- |
| 11. Электроэнергия, расходуемая на работу лифтов | |
| — в домах Минжилкомхоза | — 70.20 -"- |
| — в домах ЖСК при наличии раздельного учета | — 43.20 -"- |
| 12. Электроэнергия, расходуемая садоводческими товариществами на полив | — 43.20 -"- |
| 13. Население | |
| — городское | — 70.20 -"- |
| — сельское и городское в домах, оборудованных электроплитами | — 46.80 -"- |
| 14. Населенные пункты | |
| — городские | — 61.20 -"- |
| — сельские | - 41.40 -"- |

* При наличии дифференцированного учета по времени суток.

При отсутствии — по тарифу, применяемому в остальное время суток.

*Предприятие "Энергонадзор".*


**Совхоз «Дричинский»**

*Пуховичского района*

**РЕАЛИЗУЕТ**

*в неограниченном количестве капусту поздних сортов, которая хранится длительное время.*

*Цена — по договоренности.*

*Обращаться по телефонам: (8-213) 7-91-25, 7-91-32 или в г. Минске: 68-26-48, 68-25-86.*

**Арендное предприятие «Молодечненский РКБО»**

**принимает от населения в переработку на пряжу шерсть овечью мытую.**

**Обращаться по адресу:**

г.п. Радошковичи, проезд автобусом "Минск—Радошковичи", тел. 95-4-40, 95-1-44;

д. Олехновичи, комплексный приемный пункт, проезд электричкой "Минск—Молодечно" до ст. Олехновичи, тел. 91-2-43;

г. Молодечно, ул. Щорса, 36, диспетчерская, тел. 5-19-82.

В г.п. Радошковичи можно сразу оформить заказ на изготовление изделий из шерсти.

Приглашаем к сотрудничеству предприятия, организации, которые занимаются распиловкой леса и изготовлением швейных изделий.

**Телефоны для справок: 5-19-61, 5-05-77.**






Акционерный коммерческий банк "Беларусбанк"

ПОКУПАЕТ У ГРАЖДАН РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ

**ПРИВАТИЗАЦИОННЫЕ ЧЕКИ "ИМУЩЕСТВО"**

С ПЕРЕВОДОМ ДЕНЕЖНОЙ СУММЫ НА ВКЛАДНОЙ СЧЕТ, ОТКРЫВАЕМЫЙ В АКБ «БЕЛАРУСБАНК» И НАЧИСЛЕНИЕМ ЗА:

- 1 месяц - 240% годовых;
- 3 месяца - 280% годовых;
- 6 месяцев - 300% годовых;

ПО ВОПРОСАМ ПРОДАЖИ ПРИВАТИЗАЦИОННЫХ ЧЕКОВ "ИМУЩЕСТВО" ОБРАЩАТЬСЯ В ОТДЕЛ ИНВЕСТИЦИЙ

Г. МИНСК, УЛ. БЕРСОНА,16. КАБ. N 216

ТЕЛ. 20-89-21

**АКБ «БЕЛАРУСБАНК»**

©МОНБЛАН





*КАЛГАС "Гарадзейскі" Нясвіжскага раёна многае зрабіў у плане падрыхтоўкі да стойлавага ўтрымання жывёлы. На комплексе, дзе гадуецца 3.000 бычкоў, падрыхтавана ўдосталь сенажу, сіласу. Убрана ўся кукуруза. Кармы адразу бяруцца на строгі ўлік. Старшыня калгаса А.Губарэвіч асабіста кантралюе падрыхтоўку да зімы, разам са спецыялістамі робіць усё магчымае, каб узімку не знізілася прадуктыўнасць жывёлы.*

*Ідзе рамонт памяшканняў, механізмаў, уцяпляюцца вокны і дзверы.*

*На пасяджэнні праўлення калгаса заслухоўваюцца кіраўнікі вытворчых падраздзяленняў, якія паведамляюць аб падрыхтоўцы да зімоўкі грамадскага статка.*

Канстанцін ПРЫЁМКА.

***НА ЗДЫМКАХ:*** *нарыхтоўка кармоў; Аляксандр* ***Губарэвіч*** *і галоўны заатэхнік гаспадаркі Аксана* ***Бяздольная;*** *начальнік комплексу Станіслаў* ***Бяздольны,*** *аператар Валерый* ***Бруй,*** *ветфельчар Пётр* ***Шаўчук,*** *аператары Аляксандр* ***Кутас,*** *Уладзімір* ***Чабатарэнка,*** *Генадзь* ***Яўкала.***

Фота Анатоля БАСАВА.



## МАЎЧАННЕ — ЗОЛАТА

У сувязі з павелічэннем цэн на электраэнергію і павышэнне чыгункай тарыфаў на перавозку пошты, Міністэрства сувязі і інфарматыкі рэспублікі павысіла цэны на свае паслугі. Так, мінута міжгародняй тэлефоннай размовы ў межах вобласці цяпер будзе каштаваць 24 рублі, у межах рэспублікі — 48 рублёў. Перасылка простага пісьма, масай да 20 грамаў, ацэнена ў 15 рублёў, а кошт аднаго слова ў звычайнай тэлеграме — 6 рублёў. Дарэчы, адно слова тэрміновай тэлеграмы каштуе ў два разы даражэй.

Аднак павелічэнне тарыфаў, паводле разлікаў сувязістаў, не пакрые фактычных расходаў. Хоць бы такі факт: рэальныя затраты на эксплуатацыйнае абслугоўванне аднаго кватэрнага тэлефона складуць цяпер 5.100 рублёў, а абанентная плата за гэты ж час — 1.000 рублёў. Вось і ўся арыфметыка.

БЕЛІНФАРМ.

■ Канфліктная сітуацыя

# ВЫСЯЛЕННЕ

**"Калектыў ПКБ просіць прабачэння за нерытмічную работу магазіна і адсутнасць асартыменту. Гэта звязана з тым, што аблвыканком перадаў наш будынак камерцыйным структурам, якія не толькі не дазваляюць нам гандляваць, але і спрабуюць выселіць людзей на вуліцу".**

/З аб"явы/.

— Так, гэта наш магазін. Мы забяспечвалі агароднінай насельніцтва мікрараёна. А зараз вымушаны яго закрыць, — пацвердзіў начальнік ПКБ аб"яднання "Мінскаблаграпрамбуд" Э.М.Білейчык.

— А якое дачыненне да агародніны мае ваша праектна-канструктарскае бюро? — не зразумеў свайго субяседніка. — Хіба новую тэхналогію яе вырошчвання прапануеце хлебаробам ці перапрафіліраваліся ў гандлёвую арганізацыю?

— Ні тое, ні другое. Наша ПКБ створана пры аб"яднанні "Мінскаблаграпрамбуд". Распрацоўваем праектна-каштарысную дакументацыю для гаспадарак вобласці. Рашэннем агульнага сходу калектыву ў студзені 1990 года яно пераўтворана ў арэнднае прадпрыемства. У 1992 годзе ў статут унеслі дапаўненне аб гандлёва-закупачнай і пасрэдніцкай дзейнасці, рэалізацыі тавараў народнага спажывання. Для гэтых мэт і адкрылі магазін, а ў Цэнтральным райвыканкоме горада Мінска атрымалі дазвол на розлічны гандаль...

Пэўна, не ад лёгкага жыцця канструктары ўзяліся за далёкую ад іх асноўнай дзейнасці работу, каб атрымаць нейкую капейку. Паколькі "спасылкі на карыснасць выконваемых ПКБ работ для калгасаў вобласці і наяўнасць з імі дагавораў неабгрунтаваныя, яны не ўзгадняліся з аблкамсельгасхарчам і невыканальныя з-за адсутнасці фінансавання", — такі вывад аблкамсельгасхарча адносна запыту Пастаяннай камісіі Вярхоўнага Савета. Ды і група супрацоўнікаў ПКБ заяўляе: "Дагаворы на праектаванне з заказчыкамі не заключаюцца. У даны момант /верасень/ у рабоце ўсяго толькі адзін аб"ект. У выніку атрымліваем палавіну ад мінімальнай зарплаты".

І як тут не зразумець крыўду Білейчыка, што іх вымушаюць закрываць свой магазін.

— Горш таго, мы пастаўлены ў такія ўмовы, што пад пытаннем існаванне і самога ПКБ, — працягваў свой расказ Эдуард Максімавіч. — Трыццаць чалавек, у асноўным жанчын, выкідваюць на вуліцу. Дзяржаўнай маёмасцю распараджаюцца як уласнай, прадаюць яе ці размяркоўваюць між сваіх людзей, як гэта зрабіў аблвыканком, перадаўшы наш будынак камерцыйнай структуры — таварыству з абмежаванай адказнасцю "Мінскаблаграбудматэрыялы" якое і паказвае нам на дзверы. Вось паведамленне з нарсуда Цэнтральнага раёна — да 13 верасня павінны вызваліць памяшканне, інакш выселяць у прымусовым парадку з аднясеннем усіх расходаў на кошт ПКБ. Мы ж не збіраемся выконваць гэтае рашэнне. Будзем змагацца да канца. Спадзяёмся, што праўда возьме верх.

Аб"ектам спрэчкі стаў двухпавярховы цагляны будынак агульнай плошчай 597 квадратных метраў, размешчаны па Тарфяному завулку, 1-а ў г.Мінску. Аб"яднанне "Мінскаблаграпрамбуд" здавала памяшканні ў арэнду розным арганізацыям. У тым ліку 17 пакояў і ПКБ. Летась у ліпені аблвыканком перадаў будынак на баланс асацыяцыі "Мінскаблаграбудматэрыялы".

Гэта не прыватная камерцыйная структура — таварыства з абмежаванай адказнасцю, як сцвярджае Білейчык, а абласная міжгаспадарчая асацыяцыя. На сродкі калгасаў вобласці, аблкамсельгасхарча, шэрагу арганізацый АПК ужо здадзена ў эксплуатацыю некалькі заводаў, іншых прадпрыемстваў будіндустрыі, неўзабаве запрацуе ў Ваўкавыску тэхналагічная лінія па выпуску 300 тысяч тон цэменту ў год для гаспадарак Мінскай вобласці.

Раз змяніўся ўласнік маёмасці, то зусім натуральнай была просьба да ПКБ /кастрычнік 1993 года/ "перазаключыць дагавор аб арэндзе з новым арандадаўцам".

Ніякага рэагавання. Праз месяц Білейчыку напамінаюць, што тэрмін арэнды заканчваецца і варта падумаць аб яго аднаўленні. Зноў маўчок. Да таго ж ПКБ "не ўносіла платы за камунальныя паслугі, паслугі АТС, арэнду і г.д., плошчы выкарыстоўвае не па прызначэнню, адкрыўшы без згоды ўласніка агароднінны магазін, а ў частцы пакояў размясціла аддзелы прыватных арганізацый..."

— Ніякіх прыватных фірм у мяне няма, — заявіў у час нашай гутаркі Білейчык. — Створаны інфармацыйна-аналітычны аддзел з сямі чалавек.

Пацікавіўся ў іх, чым яны займаюцца. "Распрацоўкай камп"ютэрных праграм, разлікам вузлоў, розных мантажных плат, зборам біржавой інфармацыі і г.д.", — адказалі мне.

Больш поўную характарыстыку далі канструктары ПКБ: "Служым прыкрыццём ці шырмай для так званага інфармацыйнага аддзела. За час яго існавання ніякай інфармацыі менавіта для праектавання нам не прадставілі".

Некалькі разоў з Білейчыкам сустракаўся старшыня аблкамсельгасхарча. Спрабавалі вырашыць пытанне спакойна, без ультыматумаў. І людзей ніхто не збіраўся выганяць на вуліцу, ім пакідалі неабходную колькасць пакояў. Аднак "імкненне аблвыканкома знайсці кампраміснае рашэнне не знайшло ўзаемаразумення з боку Білейчыка". Бачачы такую незгаворлівасць, арандадаўца быў вымушаны звярнуцца ў абласны гаспадарчы суд, які і прыняў рашэнне аб высяленні ПКБ. Апеляцыя ў Вышэйшы нічога не дала. Аднак ні 5, ні 25 мая высяленне не адбылося. Яно адкладвалася, паколькі Білейчык закідаў скаргамі розныя інстанцыі, уключаючы старшынь Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў, генеральнага пракурора, міністра ўнутраных спраў, а пазней — і прэзідэнта. Спрабаваў даказаць, што праўда на яго баку, а вось закон супраць іх.

Пэўна, хісткімі, не падмацаванымі канкрэтнымі фактамі аказаліся аргументы, бо нічога з гэтага не атрымалася. І вось нарэшце 13 верасня судовы выканаўца пачаў высяленне. Супрацоўнікі ПКБ ведалі, што гэта рана ці позна адбудзецца, аднак ніхто загадзя не пакаваў чамаданы. "Я вас у крыўду не дам, — супакойваў сваіх падначаленых Білейчык. — Ніхто не прымусіць нас пакінуць гэтае памяшканне".

Першыя дзве адтэрміноўкі з высяленнем, здаецца, даказвалі справядлівасць яго слоў, давалі людзям нейкую надзею, што і зараз "праняce". І сапраўды. У другой палове дня паявіўся Білейчык, а назаўтра прынёс рашэнне аб часовым прыпыненні вызвалення занятых пакояў: 19 верасня гаспадарчы суд вобласці павінен быў разглядаць іск ПКБ аб прызнанні за ім пераважнага права на арэнду, хаця закон сцвярджае, што падобны іск трэба падаваць за тры месяцы да заканчэння дагавора. Рашэнне ж суда было не на карысць ПКБ.

Не буду расказваць аб тым, як і куды яго кіраўнік звяртаўся потым са сваімі скаргамі. Але ж колькі вяровачцы ні віцца, а канец будзе. Сумным аказаўся фінал для канструктараў. 18 кастрычніка судовы выканаўца прадоўжыў высяленне. Як і раней, на месцы не аказалася Білейчыка, які абавязаны быў там знаходзіцца. Не было і супрацоўнікаў ПКБ. Давялося ў прысутнасці панятых адчыняць замкнёныя пакоі і апісваць маёмасць.

Хацелася б тут і паставіць кропку, калі б не адна акалічнасць. Генеральны дырэктар асацыяцыі "Мінскаблаграбудматэрыялы" В.С.Мяркулаў спытаў у мяне:

— Пры падрыхтоўцы матэрыялу для газеты вы сустракаецеся з тымі, каго думаеце крытыкаваць?

— Абавязкова, — адказваю. — Такія няпісаныя законы журналістыкі.

— А вось ваш калега, аглядальнік "Советской Белоруссии" Міхаіл Круль думае інакш...

І яшчэ Вячаслаў Сяргеевіч нагадаў адзін прыклад. Дэпутат Вярхоўнага Савета Сяргей Антончык летась займаўся гэтай канфліктнай сітуацыяй. Здаецца, яго пераканалі, што нічога супрацьзаконнага тут няма. І сам ён ніякіх заўваг не зрабіў. Таму поўнай нечаканасцю для ўсіх аказалася яго выступленне на сесіі, дзе сцвярджалася, што ў адносінах да ПКБ чыняць самадурства, робяць усялякія гадасці. І вось нядаўна — аналагічнае выступленне Антончыка на сесіі, пасля якога пачаўся новы віток праверак.

— Няўжо ён, захапіўшыся барацьбой з прыхватызацыяй, усіх стрыжэ пад адзін грабянец, ва ўсіх бачыць несумленных людзей? — спыталі ў мяне работнікі асацыяцыі.

У адказ давялося адно пацікнуць плячыма: дэпутату ж лепш відаць. Зазначу толькі, што асацыяцыя стварае канструктарскае бюро і набірае туды спецыялістаў. Возьме і работнікаў ПКБ, калі хто пажадае.

І яшчэ. Будынак па Тарфяному завулку з"яўляецца абласной камунальнай уласнасцю, і ніякіх рашэнняў аб яе прыватызацыі аблвыканком не прымаў.

Пётр СІДАРОВІЧ.

■ Личное мнение

# ВОЗМОЖНО, СКОРО СКАЖЕМ: "ВОТ ТЕБЕ, БАБУШКА, И АЛЕКСАНДРОВ ДЕНЬ"

РЕФОРМЫ, реформы... Дошли, наконец, и до реформирования исполнительной власти. Пока — первый этап. А что дальше? Похоже, Советскую власть заменили на президентскую. Конечно, какие-то изменения должны произойти, но в том, что касается органов управления, — то только на принципе первичности территориального самоуправления и вторичности государства. Ведь Советская власть в своей основе не тоталитарна, это — форма общенародного самоуправления. Но в чрезвычайных условиях /гражданская, Отечественная войны, восстановление народного хозяйства/ ей пришлось придать функции государственных органов и поставить под контроль государства /через КПСС/.

Но вот последовала отмена ст. 6 Конституции СССР. Вряд ли это было лишь ошибкой М.Горбачева, скорее, проводилась сознательная акция по дискредитации Советов в смысле отмены руководящей роли партии. Когда-то все равно это надо было сделать, но, видимо, не сразу, а в течение какого-то периода. Безусловно, ныне государственная машина разлажена и централизация власти в руках президента, по-видимому, нужна. Но вместо временной, на период стабилизации в обществе, передачи управления от Советов президенту происходит ликвидация самоуправления вообще. Представительные территориальные органы в президентском проекте, вполне возможно, и с сохранением названия "Советы", не будут иметь даже видимости самоуправления. Единственная их функция — голосование по бюджету, который Советы составлять не будут.

Самоуправление возможно тогда и только тогда, когда вся исполнительная власть остается в районе, городе, в т.ч. финансы, милиция, налоговая служба, собес, торговля, образование, дошкольная подготовка, здравоохранение и т.д. А у государства в лице президента останутся обеспечение безопасности страны, контрольные функции и общенациональные приоритеты: армия, КГБ, МИД, таможня, пограничные и иные спецвойска, госбанк, единая электросеть, железные дороги, топливно-энергетический комплекс, налоговая инспекция, наука, санитарно-эпидемиологический, радиационный и прочий контроль, аварийно-спасательные службы, стандарты, статистика — все то, что требует жесткой централизации. Под президентское правление должны переходить лишь те территории, которые самостоятельно не справляются с выполнением предусмотренных законом обязательств перед гражданами, да и то только с ведома парламента, на определенный срок, т.к. президентское правление — это лишение людей права на самоуправление. Александр Лукашенко и наша демократическая, правовая Конституция, одобренная буржуазными экспертами, право на самоуправление гражданам не предоставляют: обязательно должен быть "пастух".

Однако в принципиальном плане самоуправление возможно только при условии, если налоги изначально будут делиться на две неравные доли: большая часть — в бюджет территории и меньшая часть — государству. Государственные расходы обязаны финансироваться по остаточному принципу, но не наоборот, как сейчас.

Реформировать надо не органы самоуправления, а законодательство о банках, коммерческой тайне, налогах и таможенных пошлинах. У нас же, как всегда, вначале ломают, а потом думают: что делать? Так, наши депутаты во главе с С.Шушкевичем развалили Союз, а теперь решают многочисленные проблемы. Сегодня эти депутаты, уже под эгидой А.Лукашенко, развалят органы самоуправления и уйдут на "заслуженный" отдых, а мы будем за них расхлебывать, "вживаясь" в тоталитарный президентский режим. Потому что распространение исполнительной власти государства на всю вертикальную структуру, чего добивается президент, — это и есть тоталитаризм /полный контроль над всеми сферами жизни общества/. Допустимо президентское управление областями, а в городах и сельскохозяйственных районах необходимо самоуправление. Даже во времена феодализма отдельным городам предоставлялось самоуправление /Магдебургское право/. Вполне возможно, что в результате повсеместной ликвидации самоуправления на Беларуси войдет в обиход немного модифицированная поговорка: "Вот тебе, бабушка, и Александров день."

Очень опасно для общества и государства заявление президента о том, что он нарушает законы, по его мнению, якобы противоречащие Конституции /т.е. не соблюдает свою клятву /ст.99 Конституции/. Закон для того и существует, чтобы все, и прежде всего государственные служащие во главе с Александром Лукашенко, его выполняли. Если не будет выполнять закон президент, то почему его должен выполнять я, коль закон, по моему мнению, противоречит Конституции? В соответствии со ст.22 Конституции РБ, все равны перед законом — и я, и президент. Ведь А.Лукашенко — не богом, а народом избранный служащий, и управлять страной он должен на основании законов, а не издавая законоотменяющие указы.

Какой вариант выберет А.Лукашенко при ликвидации органов самоуправления? Судя по тому, как рьяно он расправляется с должностными лицами, поддерживавшими его политических "противников" по т.н. левоцентристскому блоку, предпочтет украинский /подчинит себе исполнительные комитеты/. Это позволит президенту одним махом изгнать всех руководителей исполкомов, не поддержавших А.Лукашенко на выборах, и избавиться в регионах от левой оппозиции.

Когда только наши руководители перестанут говорить о себе во множественном числе? Российский император: "Мы, Николай II...". Президент Лукашенко: "Если мы идем на жизненно важные для республики реформы"... Из того, что Александр Лукашенко идет на капиталистические реформы, вовсе не следует, что я, Валерий Щукин, его в этом поддерживаю. Большинству народа нужны социалистические реформы. И потому прежде чем разрабатывать антикризисную программу, надо вначале определить, куда мы /народ/ предпочитаем двигаться. Для этого нужен референдум. Но, судя по всему, президент вовсе не собирается спрашивать мнение избирателей.

А.Лукашенко, как и его предшественник — глава исполнительной власти В.Кебич, собирается приводить в действие механизм банкротства предприятий. Банкротство частных, совместных, акционерных и т.п. предприятий — еще понятно, но банкротство государственных предприятий — это нонсенс. Ведь за нормальную работу государственных предприятий ответственна исполнительная власть. Обанкротилось одно предприятие — возможно, виноват и назначенный государством директор. Два-три в отрасли — надо немедленно заменить министра. А если обанкротились предприятия в нескольких отраслях — Кабинет Министров вместе с президентом обязаны подать в отставку: они не способны руководить.

Валерий ЩУКИН, механизатор.

Крымінальны сюжэт

# ТАЯ ЖАХЛІВАЯ НОЧ...

ПА АМАЛЬ ПУСТЫННАЙ начной шашы на максімальнай хуткасці імчаў "легкавік". За ветравым шклом, у святле фар, як у гіганцкім калейдаскопе мільгалі дрэвы, кіламетровыя слупы, паказальнікі, рэдкія дамы. Раптам промні святла выхапілі з начной цемры парэнчы моста. "Легкавік" пачаў збаўляць хуткасць і, з"ехаўшы на абочыну, скрыпнуў тармазамі. Грукнулі дзверцы. З аўтамабіля выйшлі два мужчыны. Шчоўкнулі замком багажніка і, сагнуўшыся ад цяжару, павалаклі нешта ўніз — да ракі. Праз хвіліну-другую раздаўся лёгкі ўсплёск вады. Стала ціха.

...Камароўскі рынак гудзеў як растрывожаны вулей. Шукюра гэта, аднак, не турбавала. Яму, жыхару спякотнага поўдня, было дастаткова месяца, каб прызвычаіцца да мітуслівага гарадскога жыцця. Падхоплены людскім вірам, ён хутка знайшоў таго, каго шукаў. Гусейнаў разам са сваім напарнікам стаяў за прылаўкам: прадавалі прывезеныя фрукты. Да яго і звярнуўся Шукюр:

— Ты, ведаю, хацеў купіць аўтамабіль. Адзін мой знаёмы якраз збіраецца свой прадаваць. Магу наладзіць сустрэчу...

Гусейнаў згадзіўся. Тым больш што да закрыцця рынку заставалася ўсяго нічога. Праз некаторы час яны ўжо адчынялі дзверы ў кватэру Аліны Гулевіч /прозвішчы і імёны ўдзельнікаў гэтай гісторыі зменены/. З ёю Шукюр знаходзіўся ў сужыцці. На той момант у кватэры быў брат Аліны — Віктар. Перш чым загаварыць аб справе, паставілі на стол бутэльку. Праўда, Гусейнаў да чаркі не дакрануўся. Штосьці яму не падабалася ў гэтай абстаноўцы. Таму быццам бы па патрэбе папрасіўся ў туалет. Дзе выручаныя на Камароўцы грошы хуценька перахаваў з кішэні ў іншае месца. А тым часам Шукюр абследаваў яго верхняе адзенне, але нічога не знайшоў. Гусейнаў збіраўся ўжо выходзіць. Адкрыў дзверы. І... моцны ўдар зваліў яго на падлогу. Страчваючы прытомнасць, ён паспеў толькі заўважыць твар Шукюра. Апошні даў волю кулакам, нагамі таптаў Гусейнава. Спагнаўшы злосць, пачаў абшукваць яго. Нарэшце знайшоў:

— Во, падла, куды грошы засунуў — у шкарпэтку.

Пералічыўшы здабычу, спытаў у Віктара:

— Куды яго?

— Давай пакуль у спальню, — сказаў той. — А там паглядзім.

Труп зацягнулі ў пакой. Тут на вочы Шукюру трапіўся электрашнур. Спрытна зрабіўшы пятлю, накінуў яе на шыю Гусейнаву і туга зацягнуў.

— Каб не ўваскрэс, — растлумачыў крыху здзіўленаму Віктару.

Цела, наколькі было магчыма, запіхнулі пад ложак.

Аліна разам са сваёй сяброўкай Любай стомленыя вярнуліся з дня нараджэння. У кватэры нікога не было. Вобмацкам знайшла выключальнік у спальні... Спачатку нічога не змагла зразумець: з-пад ложка выглядвалі ногі. "Во набраўся, што нават узлезці не змог", — падумала яна і штурханула ляжачага:

— Уставай, чаго разлёгся.

І раптам страшная думка апаліла яе:

— Люба, ён жа мёртвы... Трэба хутчэй у міліцыю...

— Ты што, абалдзела? Труп жа не з неба зваліўся. У кватэры былі Шукюр і Віктар... Разумееш?..

Разгубленыя жанчыны прыселі, не ведаючы, што рабіць. Са здранцвення іх вывеў шчаўчок у дзвярным замку. На парозе стаялі Шукюр і Віктар. Абодва злыя.

— Чаго расселіся? — гыркнуў Віктар. І адразу звярнуўся да Аліны: — Давай коўдру... Яго трэба запакаваць і вывезці куды-небудзь.

Потым безапеляцыйна распарадзіўся:

— Паедзеце з намі.

Машына, за рулём якой сядзеў Віктар, кружыла па вячэрніх вуліцах горада. Ён не гнаў аўтамабіль, баяўся, каб не "тармазнула" міліцыя. З такім "пасажырам", якога на заднім сядзенні падпіраў Шукюр, адна дарога "свеціць"... Без прыгод дабраліся да гарадской ускраіны. За кальцавой Віктар на прасёлку пагнаў да вадасховішча. Спыніліся ля прыбярэжных кустоў. Люба і Шукюр знайшлі ў цемры камень. Прыладзілі яго да цела Гусейнава і спіхнулі з берага ўніз. Цёмная вада амаль бясшумна праглынула яго.

Вернемся, аднак, на некалькі гадзін назад — калі цела мёртвага Гусейнава аказалася пад ложкам. Шукюр тады ўспомніў, што сведкам яго размовы на рынку быў напарнік апошняга.

— Ён можа данесці міліцыі, — занепакоіўся Шукюр. — Трэба і з тым як вось з гэтым...

— А дзе знайсці і як выманіць? — спытаў Віктар.

— Мне вядомая яго "хата"... А выманіць...

Шукюр на момант задумаўся:

— Прасцей простага. Ён збіраўся сёння вечарам ехаць у Калінінград. Прапануем падвезці да вакзала, а там...

Атышбекаў, напарнік Гусейнава, узрадаваўся, што яго падкінуць да вакзала: Мінск ён ведаў не вельмі добра, да таго ж, быў выпіўшы. У машыне задрамаў. А калі расплюшчыў вочы — замест прывакзальнай плошчы была нейкая пустэча. І адразу ж яго моцна ўдарылі па твару. Вобмацкам знайшоў дзвярную ручку і вываліўся на зямлю. Кінуўся наўцёкі, але Шукюр з Віктарам хутка дагналі. У ход пайшлі манціроўка, кулакі, прыклад паляўнічага абрэза. Страчваючы прытомнасць, скрываўлены Атышбекаў на каленях маліў забойцаў: "Вазьміце грошы, толькі пакіньце жывым". Яны не чулі гэтых слоў, аслепленыя лютасцю. Спыніліся тады, калі ахвяра ўжо бездапаможна ляжала на зямлі. Аддыхаўшыся, спіхнулі труп непадалёку ад берага ў вадасховішча.

Цяпер, схаваўшы сляды першага забойства, Шукюр і Віктар задумаліся. Іх турбавала тое, што два трупы знаходзяцца непадалёку адзін ад аднаго.

— Яўная наводка для "ментоў", — сказаў Віктар.

— Трэба адвезці куды-небудзь далей і выкінуць у рэчку, — нечакана прапанавала Люба.

Усе пагадзіліся. Вылавілі з вады цела Атышбекава, загрузілі яго ў багажнік, і "легкавік" паімчаў у начную цемру...

На што спадзяваліся яны? На тое, што ўсё сыдзе з рук? Але нездарма кажуць: ад сумлення не ўцячэш. Замёўшы, як ім здавалася, усе сляды, гэтая чацвёрка не паехала адразу ў Мінск, а па дарозе завярнула да знаёмых. Там падзялілі паміж сабой грошы Гусейнава і Атышбекава. Выпілі. І тут Люба не вытрымала. Прызналася сваёй сяброўцы, што ёй страшна. І што міліцыя іх усё роўна знойдзе, таму лепш пайсці самім і прызнацца. Люба так і сказала: "Я не вытрымаю, сама пайду і прызнаюся". Не здагадвалася, што гэтым выносіць сабе смяротны прысуд. Магчыма, яна яшчэ спадзявалася на нейкае разуменне з боку сяброў? Ці яе пачаў прыгнятаць цяжар сумлення?

Зусім інакш разважала Аліна. Яна перадала пачутае Шукюру і Віктару. Можа, гэтыя словы сышлі б за п"яную бязглуздзіцу, каб Люба не паўтарыла іх у машыне, калі ўжо вярталіся назад. Віктар адразу спыніў "легкавік". Разам з Шукюрам выйшлі. Аб нечым перагаварылі. Потым вярнуліся назад і загадалі Любе перабрацца на пярэдняе сядзенне. Ад перажытага і выпітай гарэлкі жанчына зрабіла ўсё як загадалі. Віктар папрасіў у яе цыгарэту. Люба раскрыла сумачку — і ў той жа момант на яе ззаду накінулі электрычны шнур. Аліна зацягвала яго з усяе сілы. Люба пачала вырывацца. На дапамогу забойцам прыйшоў Шукюр. Праз хвіліну жанчына абмякла. Каб цела не ўсплыло, пад адзенне засунулі камень. Труп бясшумна слізгануў з моста ўніз... Вада разышлася кругамі.

Іх арыштавалі прыкладна праз месяц. Здарылася тое, што і павінна было здарыцца. На следстве кожны імкнуўся выгарадзіць сябе. Чапляліся за ўсякую мізэрную дэталь. Віктар спрабаваў прыкінуцца псіхічнахворым. Але неабвержнасць выяўленых фактаў усё паставіла на свае месца. Апошнюю рысу ў гэтай справе падвёў суд: Віктар С. атрымаў пятнаццаць гадоў пазбаўлення волі, Аліна Г. — дванаццаць. Шукюру А. вынесена выключная мера пакарання. Прыгавор пакінуты без змянення.

Уладзімір МАЦЭЛЬ, намеснік начальніка аддзела Пракуратуры Рэспублікі Беларусь.

Мікалай ЖУЧКО, кар. "Мінскай праўды".

